„NIWA" TYGODNIK BIAŁORUSKI — CENA 60 gr.



# Ніва



№ 26 (70) БЕЛАСТОК, 30 ЧЭРВЕНЯ 1957 г. ГОД II

# ДНІ ДРУЖБЫ

Купалаўскія дні — гэта свята не толькі беларускага народа, песняром якога быў Янка Купала. Янка Купала — паэт і драматург, грамадскі дзеяч — вядомы і блізкі Польскаму народу. Яго творчасць (хаця не ўся перакладзена на польскую мову), карыстаецца вялікім зацікаўленнем з боку польскага грамадства.

У перыяд падрыхтоўкі да Купалаўскіх дзён шмат гуртКоў мастацкай самадзейнасці падрыхтавала купалаўскі рэпертуар. Гурткі ў Поўднёвым Востраве, Гарадку, Беластоку і іншых мясцовасцях выступілі з пастаноўкамі п'ес Янкі Купалы. Найбольшай папулярнасцю карысталіся камедыі: «Паўлінка» і «Прымакі». У тым-жа часе ў школах і клубах праводзіліся гутаркі аб жыцці і творчасці беларускага песняра. Адбываліся вечары, на якіх гучэў прыгожы, блізкі па зместу верш Янкі Купалы. Такім чынам Янка Купала стаў яшчэ бліжэйшым нам усім.

У гэтыя дні нашаму грамадству сталі бліжэйшымі справы беларускага народа, яго жыццё, яго адданая праца ў напрамку пабудовы лепшага, шчаслівейшага жыцця, аб якім так марыў і за якое змагаўся Янка Купала.

Купалаўскія дні, якія святкаваліся ў гэтым годзе ў Польшчы, несумненна прычыніліся да далейшага ўмацавання дружбы паміж польскім і беларускім народамі.

*

Нашае грамадства ў Польшчы з вялікім здавальненнем прыняло вестку аб запрашэнні на Купалаўскія дні дэлегацыі з Мінска, у склад якой уваходзілі: Уладзіслава Францаўна Луцэвіч — жонка Янкі Купалы, Мікола Гаўрылавіч Ткачоў — пісьменнік і галоўны рэдактар часопіса «Літаратура і Мастацтва» і Вячэслаў Іванавіч Антошын прадстаўнік Беларускага таварыства, культурнай сувязі з заграніцай.

*

Нядоўга перад пачаткам акадэміі зала запоўнілася грамадствам Беластока, але не толькі Беластока. Можна было тут сустрэць і жыхароў навакольных мясцовасцей. Адкрыў акадэмію сакратар Галоўнага праўлення БГ-КТ, Аляксей Іванавіч Казёл. У цёплых словах прывітаў ён прысутных.

Пасля ў прэзідыум паклікана дэлегацыю з Мінска і прадстаўнікоў партыйных і адміністрацыйных улад Беластока.

Прысутныя з вялікім зацікаўленнем выслухалі даклад рэд. Веры Леўчук, аб жыцці і творчым шляху Янкі Купалы. У далейшым з прамовай выступіў Мікола Гаўрылавіч Ткачоў. Гаварыў ён аб Я. Купалу, як аб вялікім паэце і грамадскім дзеячу.

З вялікім зацікаўленнем выслухалі прысутныя выступленне Уладзіславы Францаўны Луцэвіч, якая расказала аб жыцці і творчасці Я. Купалы. Пасля яе выступлення зрываецца ў зале бура апладысментаў.

У артыстычнай частцы вечара выступалі: Беларускі драматычны гурток пад мастацкім кіраўніцтвам Антона Ягоравіча Кавальчука, Беларускі народны хор пад кіраўніцтвам — праф. Людмілы Іванаўны Панько і Танцавальны калектыў пад кіраўніцтвам — Тацяны Мікалаеўны Гіжэўскай. Драмгурток выступіў з пастаноўкай камедыі Янкі Купалы «Прымакі», якая выклікала зацікаўленне ў гледачоў. Хор выканаў, між іншымі, песні на словы Янкі Купалы «А ў бары, бары», і «Жыў на свеце Лявон».

Дэкламатары выступалі з арыгінальнымі вершамі вялікага паэта, як і з перакладамі з Міцкевіча і Канапніцкай.

Яшчэ доўга пасля заканчэння Акадэміі, Уладзіслава Францаўна Луцэвіч гутарыла з прысутнымі, якія хацелі як найбольш даведацца аб жыцці вялікага песняра.

*

Горача сустракалі дэлегацыю з Мінска жыхары Бельска і сяляне сельгаскааператыва з Дэнісак. Госці цікавіліся жыццём і працай сялян. Запазналіся з дасягненнямі сельгаскааператыва ў Дэнісках.

У наступных днях госці запазналіся з аколіцамі Беластока, а таксама сустрэліся з Беластоцкімі журналістамі і культурным актывам Беластока.

Падчас сустрэч госці цікавіліся актуальнымі праблемамі нашага жыцця. З свайго боку расказвалі аб жыцці ў Савецкай Беларусі.

Падчас прабывання ў Гарадку (Беластоцкі павет) госці былі на пастаноўцы камедыі Янкі Купалы «Паўлінка» у выкананні мясцовага драмгуртка.

На заканчэнне свайго прабывання ў Польшчы дэлегацыя наведала Варшаву, дзе спаткалася з беларускай моладдзю — студэнтамі вышэйшых навучальных устаноў сталіцы.

Пабыўка дэлегацыі была вялікай маніфестацыяй дружбы паміж польскім і беларускім народамі.

М. М.



*Прэзідыум акадэміі прысвечанай Янку Купалу.*
*Фото — Рыбінскі*



*Літоўскія дзяўчаты*

## Дэкада літоўскай культуры

Дэкада літоўскай культуры ў Польшчы, як і Дэкада польскай культуры ў Літве, якія ў гэтым годзе запачаткаваліся, будуць праводзіцца і ў наступных гадах. Гэта несумненна важны момант у справе ажыццяўлення ідэі сужыцця суседніх народаў.

Так склалася, што Дэкада літоўскай культуры праводзіцца аднача́сова з Купалаўскімі днямі.

Польскі, беларускі і літоўскі народы маюць шмат супольнага ў сваёй гісторыі. Таму і Дэкада літоўскай культуры і Купалаўскія дні ў Польшчы — гэта вялікае свята ўсіх трох народаў.

Дэкада літоўскай культуры распачалася ў Польшчы 22 чэрвеня.

У гэтым дню ў Варшаве ў зале Палаца культуры і навукі адбылася ўрачыстая Акадэмія. У акадэміі ўдзельнічалі старшыня ГП ТПП-Р, Чэслаў Выцэх намеснік прэм'ер-міністра Пётр Ярашэвіч, і іншыя прадстаўнікі ўрада і артыстычных колаў Варшавы.

У акадэміі ўдзельнічала таксама дэлегацыя Літоўскай ССР якую ўзначальвае намеснік прэм'ер - міністра ўрада ЛССР — Казысам Прэйксасам.

*

23 прыбыла ў Беласток дэлегацыя ЛССР у складзе: Каваляўскас — пісьменнік і Галоўны рэдактар часопіса «Літаратура і Мастацтва», Ваціс Рэймэрыс, паэт — Эдуард Міжэлайтыс і піяніст — Дайнус Трінкунас.

Гасцей ў Беластоку спаткалі прадстаўнікі мясцовых улад. У гэтым-жа дню ў Дайлідах, ля Беластока адбылося вялікае народнае гулянне ў сувязі з распачаццём Дэкады. На эстрадзе выступаў літоўскі ансамбль песні і танца з Пуньска і Беларускі народны хор.

Вечарам у зале клуба ТПП-Р «Пшыязнь» адбылася Акадэмія, у якой удзельнічалі члены літоўскай дэлегацыі — рэд. В. Рэймэрыс, піяніст Д. Трінкунас і прадстаўнікі мясцовых улад на чале з сакратаром КВ ПЗПР — Янам Сенкевічам і намеснікам старшыні ВРН — Янам Чапляй.

Адкрыў вечар тав. Ян Чапля, пасля прывітаў прысутных рэд. В. Рэймэрыс. Даклад п. з. «Нарыс гісторыі польскага і літоўскага народаў прачытаў праф. Варшаўскага ўніверсітэта М. Шулькін.

У артыстычнай частцы выступалі: літоўскі піяніст — Д. Трінкунас, Беластоцкі сімфанічны аркестр, танцавальны калектыў ансамбля «Курпе зелёнэ» і Літоўскі ансамбль з Пуньска. Вершы дэкламавалі артысты тэатра імя А. Венгеркі.

У мінулую нядзелю адбыліся таксама ўрачыстасці распачацця Дэкады ў Пуньску. Прабывалі там члены літоўскай дэлегацыі.

ШТОТЫДНЁВІК БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА



 

## Гістарычны помнік



Пасля шматлікіх паражэнняў панесеных так падчас трынаццацігадовай вайны, як і падчас баёў у 1519—1521 гадах, Ордэн Крыжаносцаў у 1525 годзе фармальна перастаў існаваць. Князь Альбрэхт апошні вялікі магістр Ордэна скінуў сутанны, ліквідаваў Ордэн, а яго землі прыняў як свецкае леннае княства з рук Польшчы.

Было гэта вельмі важнае гістарычнае здарэнне, якое ўвекавечнена ў розных постацях.

Але не будзем папярэджваць фактаў. Паводле падання, гранічныя стаўбы яшчэ Балеслаў Хробры заказаў забіваць, якіх сляды яшчэ цяпер можна сустрэць у Германіі.

Найдаўнейшы датаваны гранічны мураваны стоўб, знаходзіцца паміж аселішчам Просткі, а вёскай Богушы, над ракой Элк. Помнік гэты пастаўлена ў жніўні 1545 г. г. зн. дваццаць гадоў пазней пасля ліквідавання Ордэна ў выніку аддзялення ад Кароны гэтай часткі Прусіі, якую Зыгмунт і аддаў на ўласнасць брандэнбургскаму маркграфу Альбрахту.

У месцы, дзе зыходзіліся тры граніцы: Кароны, Літвы і Княжскай Прусіі, быў узнесены стоўб. На ім відавочны два каронныя гербы выкананыя рэльефам на пескавым камяні г. зн. з аднаго боку літоўская пагоня, а з другога — аднагаловы арол з літарай «S» на грудзях. Карона ўвенчана, а ніжэй ёсць дошка з лацінскім напісам. Дошку з арыгінальным напісам немцы знялі і перавезлі ў музей ў Каралеўцу, а на стаўбе пакінулі копію дош-

Прыслаў
Б. ЧЭСЛАУ

# Бывай школа...

Дзе-ж паехаць на заканчэнне навучальнага года?

У Плёскі. Там найбольш нашых мілых юных карэспандэнтаў, найбольш падпісчыкаў «Нівы». Кожны дзень пошта прыносіць нам шмат пісем з Плёскаў.

*

Апошні дзень у школе. Насустрач нам ідзе вясёлая пяцёрка сямікласнікаў — гэта: Вольга Барташук, Ліда Міранюк, Вася і Міхась Міранюкі і Надзя Кішук. Усе яны ва ўрачыстым, прыўзнятым і вясёлым настроі. «Апошні дзень» у школе. Апошні раз загадчык школы Барыс Шаратуха і настаўніцы сабралі дзяцей на школьным панадворку.

Урачыстыя хвіліны. Уручэнне пасведчанняў. Перш атрымоўваюць выдатнікі. Дрыжачымі ад хвалявання рукамі бярэ пасведчанне Ліда Міранюк. У яе самыя пяцёркі. Хвалюецца яна тым больш, што яшчэ чакае яе ўступны экзамен у Беларускі агульнаадукацыйны ліцэй у Бельску. За ёю другі выдатнік — Вася Міранюк. Вася хоча быць настаўнікам. Ён будзе вучыцца ў Беларускім педагагічным ліцэі...

Потым «сямікласнікі» просяць загадчыка школы і настаўнікаў, і робяць на памятку здымак. Калісь будзе ён ім прыпамінаць бестурботныя школьныя гады.

Урэшце ў школьнай зале збіраюцца ўсе дзеці. Артыстычную частку пачынаюць «першакласнікі». Вось Валя Юзвюк дзіцячым галаском дэкламуе верш «Ужо ўзаўтра канікулы». Пасля выступае Аўгіння Сабалеўская з вершам «Гэй рабяты». Потым ідуць вершы: «Пісьмо да сяброў», «Верш аб міры» і іншыя.

Школьны хор выконвае шмат беларускіх і польскіх песень. Вылучаецца малады, даносны, звонкі галасок Вольгі Барташук. Варта было-б, каб гэтым голасам нехта зацікавіўся.

А потым ужо рассыпаліся дзеткі па ўсёй вёсцы. На парозе сустракалі іх зацікаўленыя бацькі, заглядваючы нецярпліва ў пасведчанні.

Гэтага дня прынеслі радасць у хату, толькі тыя дзеткі, якія праз цэлы год сумленна працавалі.

А. О.
І. Р.



*Выпускнікі сёмага класа ў Плёсках, Бельскі павет, са сваімі настаўнікамі. Урачыстае ўручэнне пасведчанняў.*

# ТРЭБА ПАХВАЛІЦЬ

Трэба пахваліць ініцыятыву Галоўнага праўлення БГ-КТ, якое распачало цыкл лекцыяў аб гісторыі беларускага народа і яго багатай культуры.

Як бачым, амаль ва ўсіх вёсках, беларусы захавалі сваю родную мову, звычаі традыцыі — але мала што ведаюць з мінулага свайго народа. Што праўда маглі-б яны нешта аб тым прачытаць.

Аднак ведаем, як занядбаная беларуская асвета, асабліва сярод старэйшага пакалення. Па-другое, лягчэй людзям зразумець непасрэдны расказ лектара — жывое слова.

Таму нічога дзіўнага, што на лекцыю ў Гарадку, ужо з самага падвячорка пачалі зыходзіцца людзі. Старыя і маладыя — беларусы і нават палякі.

Лектар Пятро Ластаўка ў цёплых, сардэчных словах з уласцівай яму непасрэднасцю, паказаў усю веліч і багацце нашай гістарычнай мінуўшчыны. Кожны знайшоў для сябе адказ на хвалюючыя яго пытанні.

А калі лектар сказаў: — «Цэлы свет перойдзеш, а не знойдзеш такога народа, які сароміўся-б сваёй роднай мовы» — людзі спускалі галовы...

Усё гэта сведчыць аб тым, што такія лекцыі вельмі, патрэбны і не толькі ў Гарадку, Бельску ці ў Гайнаўцы, дзе старэнькім бабулькам сыпаліся слёзы з вачэй, мала таго, яны нават дамагаліся чытаць гэткія лекцыі па радыё, надрукаваць іх асобнай брашурай. Гэткія лекцыі патрэбны ва ўсіх мясцовасцях, дзе жывуць беларусы, а нават і палякі.

Трэба праўду сказаць. Пятро Ластаўка, добры лектар. Ён патрапіў і ў цягніку і ў аўтобусе зацікавіць маладых і старэйшых. Спяваў з моладдзю беларускія песні, выкарыстоўваў кожную хвіліну, каб хоць у некалькіх сказах сказаць нешта аб беларускіх пісьменніках, аб роднай мове.

Р.

ВІКТАР ШВЕД.

# ЯНКУ КУПАЛУ

Мо' быць касцёр апошні дагараў
Пасля купалаўскай прыгожай ночы ўлетку,
Ці нейкі хлопец у бары блукаў,
Каб знайсці недзе папараці кветку,

Калі радзіўся будучы пясняр, —
Якога родная старонка ўзгадавала —
Магутнай песні сонечны ўладар,
Паэт з натхнёнаю душой — Купала.

Паэт — змагар, ты клікаў знішчыць лад
Прыгону, падняволення, нязгоды,
Каб Беларусь пачэсны свой пасад
Магла заняць сярод другіх народаў.

Ты верыў, што мінецца цьма, абман,
І светлай раніцы надыйдзе час чароўны,
Калі ў сям'і нялічанай славян.
Народ наш будзе жыць як роўны з роўным.

Твой голас зазвінеў, як гучны звон,
Глухіх і сонных змусіў ён падняцца,
І зварухнуўся не адзін Лявон
З магутным клічам: хочам людзьмі звацца!

Ты ў вершах многа дум і мар сабраў,
Пякучых слёз грамадскасці галоднай.
Ты ў сэрцах беларусаў абуджаў
Пачуццё мовы, гордасці народнай.

Збыліся мары, сёння твой народ
Жыве шчаслівы ў сям'і вольнай, новай.
Цябе няма між намі многа год
Але тваё чуваць усюды слова.

Здаецца нам, што ты жывеш пясняр,
Што зноў зайграюць твае гуслі звонка
І зноў тваёй цудоўнай песні чар
Пальецца над шчасліваю старонкай.

Ты будзеш жыць, паэт, ты не памрэш,
Хоць смерць цябе каварная забрала,
У томах вершаў вечна ты жывеш
І ў нашых сэрцах, дарагі Купала!

Варшава, 25.VI.1957 г.

---

Яшчэ і поўгода не прайшло з дня смерці бацькі, а Янка — поўны гаспадар, за работай свету не бачыць. Казік аж гарыць, так хочацца яму самому з коньмі пабываць у валасці. Калі дазволілі, ён і сядлаць каня не стаў. Накінуў на сябе кажушок, ускочыў верхам на каня, другога за вуздзечку прыхапіў і паімчаў у воласць за дзесяць кіламетраў. К вечару адтуль вярнуўся, сказаў маці і Янку пра сваіх коней:

— Каму такія падлы патрэбны? Ніхто іх пісаць не захацеў.

А сказаўшы гэта, палез на ляжанку грэцца. Лёг там і не змог устаць, паліла яго гарачка, трызніў. Янка прывёз урача. Маці паклала яму на стале залаты чырвонец. Урач паглядзеў Казю і прызнаў шкарлятыну. Грошай узяў толькі палову, бо сказаў, што Казю ратаваць позна.

Услед за Казем на шкарлятыну адна за адной захварэлі ўсе сёстры.

Кідалася ў гарачцы маленькая Гэля, прасіла:

— Ясік, ка-азку.

— Пі-і-іць, п-і-і-іць... — стагнаў Казік.

І казкі расказваў Янка, і ваду падаваў, і лякарства. Нічога не дапамагло. Памёр брат. За ім малодшыя сёстры Сабіна і Гэля.

Да Янкі ніяк не даходзіла: што-ж гэта такое адбываецца? Сваім дыханнем спрабаваў ён ажывіць, абагрэць маленькае пахаладзелае цельца Гэлі. Ледзь хадзіла знясіленая маці, і сам Янка страціў сілы. Змрочным, страшным, безвыходным усё здавалася дома, дзе стаялі тры маленькія труны. Быццам столь апусцілася, як века труны.

Пахла сырой зямлёю. Нічога не разумеючы, Янка стаяў перад ксяндзом. Той патрабаваў падвойнай платы за дзяўчынак, паўтараючы, як малітву:

— За адну галаву адна плата, за другую другая... Пан бог бачыць, не буду інакш хаваць...

Бянігда Іванаўна аддала яму скруткі лепшага палатна, сабрала ўсё да капейкі...

Доўга ўпіраўся ксёндз, доўга стаяў перад ім збялелы ад гневу Янка.

— Няможна без крыжа і малітвы хаваць маіх птушанят нявінных... — заломваючы рукі, упрошвала маці.

Пасля пахавання ўсю зіму і весну хадзіў Янка пануры, маўклівы. Дзе знайсці выхад? Не адна іх сям'я такая няшчасная, стогне вакол народ... Блукаюць думкі ў галаве Янкі, мацнее яго нянавісць да паноў- багацеяў:

*У палацах п'юць, гуляюць,*
*Свецяцца агні...*
*Мяне-ж з хаты выганяюць...*
*Вось тут і жыві...*

Нараджаюцца гэтыя радкі на полі, і, знайшоўшы хвілінку, Ясь забіраецца ў густыя зараснікі і спрабуе запісаць іх там на паперу. Толькі-б ніхто яму не перашкодзіў. Увесь боль, увесь гнеў свабодна выліваецца ў вершах:

*Няма хлеба, няма солі,*
*Вось тут і жыві...*

Подых лесу, звон касы, шум вады на старым млыне — усё дапамагала Янку не адарвацца ад свайго верша, які нараджаецца, просіцца ў свет. Адну песьню не дапісаў, пайшоў касіць і нарадзілася другая, таксама просіцца на паперу.

Ляжа ўвечары Янка на тапчан, заплюшчыць вочы. Чакае, пакуль усе паснуць і стане ціха. Тады сярод ночы запальвае ён газніцу, ставіць яе ля сябе і піша, піша аж да раніцы.

Хутка сярод суседзяў пайшлі чуткі:

— Луцэвіч пра паноў вершы складае!

— Сам вялікім панам хоча стаць!

— Шкада яго маці, удава... Такога сына адна чакае — турма...

Дайшлі гэтыя размовы да Бянігды Іванаўны Маўчала. Прыглядалася. Аднойчы не вытрымала. Прысела побач з Янкам на ганку, загаварылі:

— Скажы, Ясь, як жыць будзем? Бацькі няма... Ты ўсё кніжкі чытаеш ды вершы пішаш... Дабром гэта не скончыцца... Што ты сабе думаеш?! Ці-ж ты хлеб з гэтага будзеш есці!

— Мама... — усхвалявана адказаў Янка. — Хацела-б ты, каб бацька вярнуўся з таго свету і зноў стаў-бы жыць з намі?!

— Чаму-ж, дзетка, не хацела-б... Ой, як-бы яшчэ хацела...

— Як табе хочацца, каб бацька вярнуўся да цябе, так мне хочацца пісаць. Нельга вярнуць бацьку да нас, нельга забараніць мне складаць вершы...

На наступны дзень Янка апрануўся па-дарожнаму, павесіў за спіну свой куфэрак з кнігамі:

— Пайду я, мама...

—Куды ты пойдзеш, Ясік, павошта?

— Пайду праўду шукаць... Трэба-ж дзе-небудзь на работу стаць.

Моўчкі з парога ўслед сыну глядзела Бянігда Іванаўна, па шчаках яе цяклі слёзы. А ён — прамы, стройны, як малады дубок, — ішоў, не аглядаючыся назад, перасякаючы сенажаць, крынічную рачулку, зялёную сцяжынку, якая бегла ў лес. Ішоў ён і, ў душы нараджаліся новыя словы:

*За праўду, за шчасце, за лепшую долю*
*Вазьміся, мой дружа, пастой!*

КАНЕЦ



 

 

# МАЛАДЫЯ КРЫЛЫ...

Для Веры Чэмель ніколі не снілася, што яна будзе лётчыцай. Сёння яна нават і не памятае, дзе і калі ёй зрадзілася гэта думка. Ці тады, калі першы раз убачыла шэры самалёт на блакітным небе, ці тады, у школе, калі вучылася вершы пра лётчыкаў?... Ёй здаецца, што яна з гэтымі жалезнымі крыламі нарадзілася.

Калі іншыя дзяўчыны браліся за кудзелю, за шыццё, альбо да гародніх работаў — то Вера рвалася... лятаць. Такі ўжо быў з яе выралак. З васьмёра дзяцей, маці толькі з ёю такі клопат мела.

— Каб гэта яшчэ хлопец — гаварыла — але дзяўчына, ані ў нашым Дзернякове, ані нават у Міхалове ніколі не было чуваць, каб хтосьці лятаў.

Вось такая Тамарка будзе працаваць у шпіталі. Гэта карысна, і не аднаму прыслугу ададасць... Такім чынам нават паволі і ўгаварылі Веру, што гэта не для дзяўчыны работа. Тады яна хацела быць хаця бліжэй самалётаў, чуць іх даносны звонкі, гул, які ставаўся ёй сапраўднай музыкай і пачала працаваць у канцылярыі на аэрадроме. Потым ужо ўсё адно за другім пайшло. Тэарэтычны курс планерны, потым практычны. Усё на пяцёрках. А потым маторны курс і незабыўнае ўражанне першага самастойнага палёту.

Механік агледзіў машыну. Некалькі сот магутных птахаў тытанняй сілай рванула ўперад.

Крыху дрыжэла сэрца Веры перад першым самастойным палётам.

Дык будзе ляцець сама... адна. Старцёр даў флажком знак, «поўны газ» і машына, як шалёная рванула ўперад.

Але хай далей расказвае сама Вера.

— «Здавалася мне, што машына ніколі не адарвецца ад зямлі. Але ўжо чую, што машына не скача, зрабілася ціха і я плыву ў паветры. Аэрадром, ангары, сталіся зусім малымі, людзі поўзалі там як мурашкі...

Яшчэ не давяраю, што я лячу сама, але пустая кабіна інструктара і лёгкасць руля гавораць, што я тут зусім адна і дзеля таго ніколі я не пачулася такая адзінокая, як тады, завешаная паміж небам і зямлёй, лецячы некалькі сот кілометраў у гадзіну.

— Але выраслі мне крылы — прыйшло мне на думку — і я магу іх згубіць. І пачулася я раптам такая моцная,



*Вера Чэмель — лётчыца.*

такая сільная — зноў як ніколі».

Які прыгожы і чароўны свет з самалёта. Якісьці іншы, казачны...

На блакітным небе паміж серабрыстымі хмарамі, паміж птушкамі плыве чалавек. Пад табой перасоўваюцца рознакаляровыя плямы. Там цёмназялёны лес, а ў ім бліскучая пляма возера, далей белая істужка далёкай шасэ, то зноў блішчаць дзве простыя рэйкі, а на іх і не заўважыць цягніка, каб не плюмаж белага дыму. Перасоўваюцца вёсачкі з хаткамі як скрынкі ад запалак.

Гэта-ж там яе родная вёска — Дзернякова, а яна над ёю, як птушка ляціць. У нізе там летні, гарачы дзень, а тут так прыемна халодзіць вецер. Хацелася спяваць і крычаць з радасці, сілы і маладосці.

Эх — не ўяўляеце сабе, як у гэтым першым самастойным палёце хацелася-б сцягнуць рычаг руля і глайсерам гнаць уніз, проста ў зямлю, а потым адцягнуць ад сябе руль і стралою выйсці ізноў угору, пад воблакі, пад самае сонца.

Але на ўсё гэта будзе яшчэ пара. Цяпер трэба выканаць пастаўленае інструктарам заданне, які на зямлі назірае за яе палётам.

Пара прызямліцца. Гэта «самая трудная фігура акрабатыкі» як гавораць старыя пілоты. Каб прывязаць руль і ўключыць матор — то самалёт без пілота можа пайсці ўгору. Але прызямліцца? І з гэтым пайшло Веры як найлепш. Машына спакойна села на зямлю, дзе такая цеплыня і ціхенька звіняць на кветках пчолы. Зусім іншы свет. Аказалася, што Вера выканала свае першае заданне на выдатна.

Шмат часу прайшло ад той хвіліны. Цяпер Вера Чэмель усё гэта ўспамінае з усмешкай.

Яна — простая дзяўчына з Дзернякова, якой нядаўна гаварылі, каб нават не важылася лятаць, бо самалёт — то не веласіпед — яна цяпер з'яўляецца інструктарам пілатажа.

Вучыць лятаць іншых хлопцаў і дзяўчат, якім сняцца здавалася-б недасягальныя крылы.

І. РЫБІНСКІ
Фото — аўтара



*Механік праверыў машыну...*



*Вера Чэмель вучыць сваіх сяброў.*

## Рыбы, увага!

У Англіі распачата выраб установак, якія дазваляюць назіраць рух рыбы ў моры (нават на глыбіні 1.000 м). Лёгка сабе ўявіць значэнне гэтых установак для рыбакоў. Варта яшчэ дадаць, што гэтыя ўстаноўкі дапамагаюць удакладніць месцазнаходжанне затопленых караблёў.

*Парады гаспадарам*

# Пазнай хваробы памідораў

На памідоры і гуркі нападаюць хваробы і шкоднікі, якія неаднаразова зніжаюць плён. Папулярнай хваробай памідораў з'яўляецца зараза бульбы (зараза земнячана). Лісцё ахопленае гэтай хваробай жаўцее, пасля робіцца карычневымі. Асабліва развіваецца хвароба пры халоднай і дажджавой пагодзе. Пасля хвароба пераходзіць на плады. На пладах памідораў з'яўляюцца карычневыя плямы. Гэту хваробу можна знішчыць апырскваючы памідоры тры разы 1-працэнтным Бардоўскім растворам. Першае апырскванне трэба правесці ў канцы месяца чэрвеня або на пачатку ліпеня; другое і трэцяе апырскванне — даць у тры нядзелі пазней.

Другім спосабам знішчэння хваробы з'яўляецца вырыванне хворых пладоў. Папулярнай хваробай памідораў з'яўляецца таксама шэрая плямістасць лісцей (шэра плямістосць). На лісцях памідораў паказваюцца шэра-карычневыя плямы, якія пазней засыхаюць. Знішчыць гэту хваробу можна апырскваючы памідоры некалькі разоў — што тры нядзелі — 1-працэнтным Бардоўскім растворам.

Хваробай памідораў з'яўляецца таксама чорная плямістасць пладоў. Лісце памідораў пакрываецца цёмна - карычневымі плямамі, якія пасля пакрываюць цэлае лісце. Калі на кусціку памідора з'явіцца лопнуўшы плод (памідор) нападае на яго хвароба. Знішчаем гэтую хваробу абрываючы заражанае лісце і памідоры, або апырскваючы 1-працэнтным Бардоўскім растворам.

На памідоры нападаюць таксама вірусовыя хваробы, якія скручваюць лісце, (беражкі лісцяў звіваюцца ўгору) або ў форме мазаікі, дзе паяўляюцца жоўтыя і цёмназялёныя плямы на цэлых лісцях.

Каб пазбегнуць гэтых хвароб, патрэбна: — дабіраць устойлівыя гатункі памідораў; насенне павінна быць чыстае і ад здаровых раслін памідораў; заражаныя расліны трэба вырваць з гароду і знішчыць; вынішчыць мошкі, якія пераносяць вірусовыя хваробы. Мошкі можам знішчыць нікатынавым растворам, дадаючы да яго шэрага мыла.

Інж. ВІТАЛІ МІРОН

# ДЗЕДКА, БАБКА І... КНІЖКА

Шмат казак пачынаецца ад слоў: «Жыў сабе дзед і баба...».

Мы сваё апавяданне (аднак выбачайце, гэта не казка), таксама распачнем ад слоў:

— Жывуць сабе дзедка і бабка ў невялікай вёсачцы Вызгі, Сакольскі павет. Ён мае больш чым 70 гадоў, а яна — 70. Гэта Мікола і Ганна Клубовічы. Тут жылі іх дзяды, прадзеды, тут і яны нарадзіліся, выраслі, пакахаліся, а пасля пажаніліся. Дзеду Міколе некалі за цара-бацюшкі ўдалося закончыць 3 аддзелы вясковай школы. Бабцы Ганне, нажаль, не давялося сустрэцца з асветай і яна па сённяшні дзень засталася непісьменнай.



*70-цігадовы Мікола Клубовіч з'яўляецца вялікім любіцелям беларускай літаратуры.*

Дзедка Мікола ад самага маленства палюбіў кніжку. І хоць нялёгкая праца земляроба, не давала яму вялікіх магчымасцяў заспакаення духовага голаду, усё-такі дзед Мікола ніколі не расставаўся з кніжкай. Ён заўсёды знайшоў час і прагна чытаў. Найлепшым слухачом дзеда Міколы, была бабка Ганна. Бывала, сядуць яны ў садочку пад расцвіўшай яблыняй, раскрые дзед кніжку, ды пачне чытаць. А бабка Ганна слухае, наслухацца не можа. Перад ёй быццам свет раскрываецца.

— Эх і цуды дзіўныя ў гэтых кніжках — захапляецца бабка.

Першая сусветная вайна парушыла спакойнае жыццё дзеда і бабкі. Дзед Мікола, з вінтоўкай у руках, пайшоў змагацца за цара-бацюшку і матушку Расію. Бабка паехала ў далёкую Сібір. Бязлітасная вайна разбурыла спакойнае сямейнае гняздо.

Дзе-ж дзед Мікола не пабываў. Ён схадзіў уздоўж і ў поперак вялікую Расію. Насампершт біў прусакоў. Пасля прыйшоў бурлівы кастрычнік, бурай прайшоў па матушцы Расіі і змёў «яго імператарскае вялічаства» — цара-бацюшку.

Рэвалюцыя адкрыла дзеду Міколе вочы на свет. Ён многа чаго зразумеў. Таму ў радах Чырвонай арміі, з ярасцю граміў усялякую «контру» пачаўшы ад Дзенікіна, а скончыўшы на Калчаку. А пасля дзед з бабкай вярнуліся ў сваё разбуранае гняздо. Засталі тут самыя папялішчы. Дзед з бабкай нацягнулі жылы, пакуль прывялі да сякога-такога парадку сваю гаспадарку.

Ішлі гады. Над светам праляцела II-гая сусветная вайна. Давялося перажыць фашысцкую акупацыю, тэрор. Аднак дзед Мікола, нават у цемры акупацыйнай ночы не пакідаў сваіх найлепшых сяброў — кніжак.

Па вызваленні дзедавы сыны, выехалі ў горад. Там пажаніліся. Добра жывуць. А дзед з бабкай, зноў засталіся адны. Ніяк яны не могуць пакінуць сваю маляўнічую аколіцу, родную вёску, хатку, садочак і пасеку, якую дзед Мікола з любоўю даглядае.

Дзед Мікола з'яўляецца вялікім любіцелям свaёй беларускай літаратуры. Ён нават на памяць ведае некаторыя творы Я. Купалы і Я. Коласа. Сцены яго хаткі выклеяныя прыгожымі малюнкамі з беларускіх часопісаў. Ён таксама ад самага пачатку з'яўляецца падпісчыкам «Нівы».

Усе нумары «Нівы», роўненька зложаныя, ляжаць у яго дзеравяным чамаданчыку. Дзед Мікола сцеражэ іх, як вока ў галаве.

Часта вечарам, у акне хаткі дзеда Міколы, мігціць агеньчык нафтавай лямпы. У такія вечары пакой дзедавай хаткі біткам набіты аднавяскоўцамі. Прыходзяць сюды малыя, моладзь, старэйшыя жыхары вёскі.

Дзед Мікола адчыняе свой дзеравяны куфэрак, выкручвае кнот у лямпе і пачынае чытаць ім «Ніву».

Такіх трэба нам як найбольш...

(в і а)



 

